№ 2. КОШТ 4 АЎКС.

# ЧАСОПІСЬ

## МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ.

УРАДОВЫЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНЯ.—СТАТУТЫ І ПРАЕКТЫ.—ВАЕННЫЯ АБГЛЯДЫ.—БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА.—ГІСТАРЫЧНЫЯ МАТЭР'ЯЛЫ.—КРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ.



АНТОН СМЭТОНА.

Прэзыдэнт Літоўскага Гаспадарства, выбраны Дзержаўнай Радай 4 красавіка 1919 году на тэрмін будаўніцтва Гаспадарства да устанаўленьня сталага ладу Устаноўчым Соймам. Радзіўся ў 1874 гаду ў Вількаміршчыне; пісьменнік і юрыст; грамадзкі дзеяч Вільні.

**КОЎНА.**
**Кастрычнік,**
**1919.**




рычын і забастоўкі гэты нумэр „Часопісі“ спозьніўся выданьнем.

## зьмест № 2 „Часопісі“:

ТЭКСТ.


тацьця Редакцыі . . . . . . . . . Стр. 1—2.

АРУСКІХ СПРАЎ, зробленая пры ўступленьні ў V-ты Габінэт,
ка 1919 г. . . . . . . . . . . . . „ 2.

УСКАЙ ДЗЕРЖАЎНАЙ РАДЫ ДАМІНІКА СЕМАШКО
Д. Р. 16 кастрычніка 1919 г. . . . . . . . „ 2—3.

РУСКІХ СПРАЎ за 10 месяцаў істнаваньня. Кароткі нарыс М.
Засецкага . . . . . . . . . . . . . . „ 4—7.

5. Беларуска-Літоўскае жыцьцё . . . . . . . . . „ 8—11.

6. Кроніка . . . . . . . . . . . . . . „ 12.


МАЛЮНКІ.


1. Антон Смэтона—Прэзыдэнт Літоўскага Гаспадарства (1 стр. вкладкі); 2. Дамінік Семашко (стр. 3); 3. Вацлаў Ластоўскі (стр. 5); 4) Ёнас (Ян) Вілейшыс (стр. 6); 5. Городзенская Вакружная Камэндантура (стр. 8); 6. Гэнерал К. А. Кандратовіч (стр. 9); 7. Амэрыканская Місыя Маёра Росса ў Городні (стр. 10); 8. Прафэс. Э. І. Эпімах-Шыпіло (стр. 11).


## Чарговы № 3-4 „Часопісі“

выйдзе падвойным на Коляды і будзе зьмешчаць стацьші: праф. Э. Карскага, праф. Э. Вольтэра, праф. В. Смолко, М. Засецкага, Я. В. і ішн., а так сама малюнкі: „Городзенскіх Дзеячоў“, „Дзержаўнай Рады“ і выдатнейшых беларускіх і літоўскіх палітыкаў і вайсковых начальнікаў.

КОЎНА. Кастрычнік, 1919 году. № 2.



# ЧАСОПІСЬ

## МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ.

УРАДОВЫЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНЯ.—СТАТУТЫ І ПРАЕКТЫ.—ВАЕННЫЯ АБГЛЯДЫ.—БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА.—ГІСТАРЫЧНЫЯ МАТЭР'ЯЛЫ.—КРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ.

## Зьмена Габінэту.

У апошнія два месяцы Габінэт Міхала Слежэвіча перэжываў цяжкія часы. Неудачы у заграчічнай палітыцэ, што раз болей горшае фінансавае становішчэ, перэгружэннасьць лішнімі, ды і ніздатнымі людзьмі многіх міністэрстваў, якіх было аж чатырнаццаць, ваханьня у вайсковай палітыцэ (замена Міністра Краёвай Абароны А. Мэркіса—новым Міністрам П. Жадэйко), а так сама і нізгода паміж партыямі, кіруючымі справай адбудовы Гаспадарства,- прымусілі ўвесь Габінэт М. Слежэвіча 2 кастрычніка г. г. падацца у адстаўку, якая і была прынята Прэзыдэнтам. Такім чынам IV-ты Габінэт Літоўскага Гаспадарства праістнаваў непоўныя поўгода (ад 12 красавіка).

Пасьля гэтай адстаукі Прэзыдэнт Гаспадарства даручыў злажыць новы Габінэт Міністраў Члену Літоўскай Дэлегацыі у Парыжы Эрнэсту Гальваноўскаму, які і злажыў 7 кастрычніка г. г. так званы „дзелавы“ Габінэт, куды увайшлі:

1. ЭРНЭСТ ГАЛЬВАНОЎСКІ, Старшыня Рады Міністрау, Міністэр Грашовых Спраў, Гандлю і Прамыслу;
2. Праф. АЎГУСТЫН ВОЛЬДЭМАРАС, Міністэр Замежных Спраў;
3. Д-р ЕЛІЗЭЙ ДРАЎГЕЛІС, Міністэр Унутрэнных Спраў (куды увайшло і былое Міністэрство Працы і Сацыяльнай Апекі);
4. ЯЗЭП ТУБЕЛІС, Міністэр Прасьветы, Землеробства і Дзержаунай Маетнасьці;
5. ЛЮДВІК НАРЭЙКО, Міністэр Справядлівасьці;
6. Гэнерал-лейтэнант ФРАНЦІШАК ЛЯТУКАС, Часовы Вярхоўны Галоўнакамандуючы і Упраўляючы Міністэрствам Краёвай Абароны (куды увайшло і былое Міністэрство Прадавольства, Памошнікам Упрауляючага М. К. А. назначаны Антон Мэркіс);
7. ВОЛЬДЭМАР ЧАРНЭЦКІ, Міністэр Шляхоў. Праз чатэры дні д. Э. Гакьваноускім было пацьверҗэна далейшае істнаваньне і нацыянальных Міністэрствау, як залежных ад нацыянальных прэдстауніцтвау Літвы, а ласьне, асталіса надалей:
8. ЯЗЭП ВАРОНКО, Міністэр Беларускіх Спраў і
9. Д-р МАКСІМ САЛАВЕЙЧЫК, Міністэр Жыдоускіх Спраў.

Апошняе заседаньне старога складу Ураду адбылося 9 кастрычніка, на яком заслухана была вось якая Грамата:

Пану Інжэнеру

Эрнэсту Гальваноўскаму.

Я, Прэзыдэнт Гаспадарства, на моцы § 9 аснауных законау Канстытуцыі Літоускага Гаспадарства, гэтым зацьверджаю утворэны праз Пана Габінэт Міністрау у гэтакім складзе (перэлічываюцца імёны Міністрау).

Гэтым прыказываю утворэнаму праз Пана і зацьверджанаму праз мяне Габінэту Міністрау зараз жэ пачаць спаўненьне абавязкау.

АНТОН СМЭТОНА.

Прэзыдэнт Гаспадарства.

Коўна, 7 кастрычніка 1919 году.

Новы склад Ураду абсуджан быу яшчэ і

у XV-ай сэсыі Літоўскай Дзяржаўнай Рады, скліканай 15 кастрычніка, калі Старшыня Рады Міністраў і злажыў Дзяржаўнай Радзе сваю Дэклярацыю. 16 кастрычніка Дзяржаўная Рада блізка аднагалосна выказала новаму Габінэту Э. Гальваноўскага свае даверые. З погляду складу свайго—гэты V-ты Літоускі Габінэт зложэн не на коаліцыйным прынціпі, а чыста дзелавым, як па літоуску ён называецца „darbo Kabinetas“. Што дасьць нам гэты першы прыклад такога прынцыпу—упярод заглядываць ня будзем. З погляду ж партыйнага—V-ты Габінэт кавал правейшы за IV-ты; цяпер самыя левыя - Старшыня і нацыянальныя Міністры.

РЭДАКЦЫЯ.

## Заява Міністра Беларускіх Спраў Язэпа Варонко, зробленая пры уступленьні у V-ты Габінэт Літоускага Ураду на заседаньні Рады Міністраў 13 кастрычніка 1919 году.

„ПАНЭ МІНІСТРЫ!

Уступаючы у сучасны V-ты Габінэт Літоўскага Ураду, я лічу патрэбным заявіць Вам, Панэ Міністры, вось гэта.

Ад папярэдніх Габінэтаў асталося многа нескончэных спраў, датычачых беларуска-літоускіх адносін і умоў, зробленых пры самым пачатку гэтага хаўруса.

Гэтыя ўсе справы, а асабліва шмат спраў пакінутых толькі што быўшым Габінэтам д. Слежэвіча, патрабуюць ад новага складу Ураду многае мець на увазе і да споўненьня многага прыступіць не трацячы часу.

Беларуская тэрыторыя занята ворагам, ўсё што было адважнейшага з нашай інтэлігэнцыі—сядзіць у польскіх турмах у Варшаве, у Вільні, у Городні, у Беластоку.

Члены Тарыбы—беларусы так сама там жа ужэ болей трох месяцаў. Беларускае войска у Городні аддана на зьдзек праз неагляднасць старога Габінэту. Які лёс салдатаў і афіцэроў беларусоў, за што яны церпяць?

Тута-ка ні адзін Міністэр Краёвай Абароны яшчэ не паруніўся выдаць спэцыяльны закон аб беларускіх часьцях Літоўскай Арміі.

Беларуская школа—згінула, ідзе полёнізацыя беларусоў па усёй акупацыі; пазнанскія і галіцыйскія палякі з помачу жандармаў апекуюцца над нашай моладзьдзю, новыя вучыцелі не ведаюць, апроч польскай,—ніякай мовы, ні беларускай, ні расейскай, і ведама, што ад гэтага выходзіць. Беларускае насяленьне чэкае той чы іншай помачы ад Міністэрства Беларускіх Спраў, а што апошняе можэ зрабіць: бэз права зносін, бэз агітацыі, бэз друку, бэз кніг для школ, бэз средстваў. Пры такіх варунках ніякая абарона інтэрэсаў беларускага народу не магчыма.

Апроч таго ўсім ведама, што заграніцай вядзе сваю акцыю Урад Беларускай Народнай Рэспублікі; у нашых інтэрэсах, каб і з ім наступіла тое чы іншае паразуменьне, каб была аблегчэна наша праца, і каб хаўрус беларусаў з літвінамі апраўдываў бы сваё імя.

Аб гэтым усім не раз падаваліся ужэ заявы у Габінэт. Адна запіска ляжыць ад ліпеня, праект закону аб Міністэрстві ляжыць ад пачатку жніўня. Між тым беларус ужэ паліў сваёй крывёй і землю на фронці.

Гэта усё прапаную новаму Габінэту мець на увазе, каб памылкі мінуўшчыны заправуды далі нам магчымасьць працаваць разам у адбудове нашага супольнага Гаспадарства. Прэтэнзіі ж мае ніхай стануць у праграмі маёй з Вамі цяжкай працы“.

Міністэр Жыдоўскіх Спраў д-р М. Салавейчык затым зрабіў і сваю заяву адносна да нацыянальна-пэрсанальнай аўтаноміі.

Абодзьве заявы Радай Міністраў прыняты да свядомасьці бэз спрэчак.

## Слова Члена Літоускай Дзяржаўнай Рады (Тарыбы) - Дамініка Семашко сказанае на заседаньні Тарыбы - 16 кастрычніка 1919 году

(на Дэклярацыю Старшыні Рады Міністраў, зложэную 15 кастрычніка г. г.)

„ВЫСОКАЯ РАДА!

Беларусы, якія разам з Вамі церпяць усе цяжэсьці будаўніцтва Літоускага Гаспадарства,

маюць асаблівыя дадаткі да Дэкляраціі, зложэнай Старшынёй Рады Міністраў, - выходзячыя з гэтага.

У цяжкі для Літвы час приступілі беларусы да супольнай працы і, як ведама, ідуць разам з Вамі рука аб руку, як шчырыя патрыёты і праўдзівыя сыны гэтай зямлі.

Маючы свае нацыянальныя асобнасьці, сваю мову і праз іх свае войскі, беларусы приступаюць да будаўніцтва Літвы, як супольнай бацькаўшчыны на грунце аутаномнасьці, веручы у Вашу демакратычнасьць і шчырасьць, у чым такжа просяць Вас верыць і ім.



**ДАМІНІК СЕМАШКО.**

*Член Літоўскай Дзержаўнай Рады і член Прэзыдыуму Віленскай Беларускай Рады. Паходзіць з Расіенскай шляхты; Радзіўся у 1878 гаду у Вільні. За учасьцьце ў рэвалюцыйным руху ў пачатку гэтага сталецьця мусяў доўгі час жыць за граніцай. Ад сьнежня 1918 г. да кастрычніка 1919 г. прыймаў учасьце ў Літоўскай Дэлегацыі у Парыжы ад беларусоў—на Міравой Наразе.*

Беларускі народ церпіць многа: беларуская тэррыторыя занята польскімі войскамі, нашы дзеячы і нашы Городзенскія члены Тарыбы мучаюцца у польскіх турмах; над беларускім народам паневераюцца пан і легіанер. Беларускія школы ужэ у руках пазнанскіх вучыцелёў, ідзе полёнізацыя краю; ніхто ня можэ стрымаць апэтытоў Пілсудскага.

Але усе гэтыя нешчасьця ні могуць і не разарвуць Беларуска-Літоўскага Хаўруса, каторы акроплен кроўю на палёх Грынвальда пры нашым слаўным Вітаўце, як і ў нашыя дні пад Нова-Александраўскам.

Нелічучы сябе зьвязаннымі с сучасным Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі, хаўрусьнікі—беларусы не здраджаюць сваім з Вамі умовам і разам з Вамі будуць бараніць і Беласток, і Бельск, і Белавеж.

Зусім адкідываючы усякую думку аб сэпаратнай палітыцэ, мы цьвёрдо будзем дабівацца незалежнасьці нашай і не дадзём яе, так званым, бароньскім калчакістам, нараўне з палякамі так сама на яе пакушаючымся.

Ніхай бароны з Заходу, баяра з Ўсходу і польскія паны з-пад Варшавы раз назаўсёды маюць на увазе, што зямля ў Літоўскім Гаспадарстве не для іх, гэта зямля зямляробаў і што назаўсёды мінуў час, калі мы былі іх падневольнікамі, іх слугамі.

Наш сярмяжны народ стаў сам гаспадаром сваёй зямлі і праз Установчы Сойм выкажэ сваю апошнюю волю.

А да гэтага часу, калі польскія войскі будуць далей паневерацца над намі, то ніхай ніхто не вінаваціць нас, калі наша кроў акропіць пальму Вэрсальскага Міру. Тады ужэ прыйдзе народны і апошні суд над ворагамі нашаго адраджэнья.

Мы стаім за добрасусецкіе адносіны да усіх бліжэйшых да нас народаў, але ні з палякамі, ні з бальшэвікамі, якія паневераюцца над нашымі правамі, ніякіх хаўрусоў мець не хочэм.

Лічым, што пры такіх нашых поглядах, мы не разойдемся з Вамі ў супольным будаваньні Літоўска-Беларускага Гаспадарства, як будучага агульнаго хаўруса усіх жывучых і ім народаў."

Слова гэта была прынята голоснымі вокляскамі Прэзыдыўму, ўсёй Тарыбы і перэпоўніўшай Ковенскую Ратушу публікі.

## Міністэрства Беларускіх Спраў

ЗА 10 МЕСЯЦАЎ ІСТНАВАНЬНЯ.

Кароткі нарыс.*)

(Канец).

У ваеннай справі дзеля кантролю над фармаваньнем беларускіх вайскаў і нагляду за людзьмі, якія пад відам беларусоў ішлі у войска, а так сама і дзеля устанаўленьня ваеннага кантакту з немцамі і атрыманьня ад іх ўсяго патрэбнага дзеля беларускіх салдатаў, быў утворэны пры Міністэрстві Беларускіх Спраў—спэцыяльны Ваенны Сэкрэтарыят, затым Городзенская Вакружная Камэндантура, зроблены перэмены у 1-шым Беларускім поўку, пачата арганізацыя беларускай коньніцы.

Справа прасьветы ў акупованых немцамі беларускіх частках ад момэнту Гэрманскай Рэвалюцыі упала зусім, дзеля чаго Міністэрству прышлося пачаць працу на нова. Назначаліся школьныя аб'ездныя інспэктары, якія выясьнялі палажэньне школы на мейсцох, арганізаваліся вучыцельскія зьезды і хаўрусы, утворэны быў кантроль над школамі, назначаны пэнсыі вучыцелём, прывезены з Вільні кнігі дзеля школы, заложэна спэцыяльная студэнцкая камісыя у Городні, якая адновіла Городзенскую Народную Бібліатэку і забрала туды раскіданыя па ўсяму месту архівы, арганізована помач, як дзеячам прасьветы, такъ і вучням. Заложэна першая у Городні беларуская газэта „Беларускі Народ“, а такъ сама Городзенскі Аддзел Культурна-Прасветнага Таварыства „Бацькаўшчына“, с тыднёвікам пад такой жэ назвай.

Аднымі з нашых найвялікшых багацьцяў у Городзеншчыне зьяўляюцца: Нёман і Белавеж. Міністэрства арганізавала надзор бассэйну Нёмана і мастоў праз яго, пачала справу з немцамі аб перэдачы ўсіх шляхоў, як водных, жэлезнадарожных, так і шасэйных, а так жэ і ўсёй маентнасьці іх, увайшла у бліжэйшыя зносіны з прафэсыянальным хаўрусом чугуншчыкоў. Паслала сваіх людзей ў Белавеж у справі статыстыкі лесных загатовак (якіх было больш як на 1.000.000 марак), лесных чугунак і тартакоў, заводаў тэрпэтыну і смалы і інш.

Разам з гэтым усім была зьвязана і пачтова-тэлеграфная справа, да якой Міністэрства так сама прычынілася, бачучы поўную адрэзанасьць Городна ад Коўны, дзе быў цэнтр.

Справа суда, назначэньне новых судзяў, замейсцэ нямецкіх, чы раней назначэных Літоўскім Урадам, але не прыехаўшых на мейсцэ, барацьба з польскімі элемэнтамі у Городні і Беластоку—і гэта была штодзённай працай Міністэрства. Апроч таго прышлося займацца і балючай справай—памачы бежэнцам, ваеннапалонным, бедным, арганізацыёй ім сталовых і спэцыяльных перэсыльных пунктаў і т. д.

Адным словам усё ад прапаганды да таргова-прамысловых спраў, усё прахадзіла праз Міністэрства Беларускіх Спраў, якое ў той момэнт справядлівей было бы назваць Міністэрствам Беларусі, чы „Вобласным Упраўленьнем“.

Фактычна такое „вобласное“ палажэньне адпаведала ужэ зробленым умовам паміж беларусамі і літвінамі, хоць перэселеньне Міністра Беларускіх Спраў у Городно зроблена была па ініцыятыве самаго ж Міністра, але злыя языкі, нават і з беларусоў, пачалі сеяць думку аб тым, як бы такое становішчэ не дало вельмі многа правоў Міністру, проці якога пачалася вясьціся кампанія ў гуртку, колькі месяцоў таму назад быўшым вельмі „памешчыцкім“, а тута-ка адразу стаўшым „падбальшэвіцкім“.

Момэнт прыходзіў вельмі крытычны. Немцы выходзілі дамоў. Палякі пасовываліся на Саколку і Городно. Городзенская Дума разам з варажэ настроеным да літоўска-беларускай справы „панам Лістоўскім“ бунтавалі грамадзянства. Жыды—беднейшыя не ведалі куды кінуцца, чы у бальшэвізм, чы да беларусоў, багатыя, не жаль, пачалі туліцца да невялічкай кучкі палякоў, якія ужэ шылі амарантовыя штандары польскім легіонам.

*) Пачатак гл. ў № 1 „Часопісі“.

Цэнтр Літоўскага Ураду, не ведама з якіх прычын, цягнуў усе справы, аб вырэшэньні якіх паставіла свае пытаньня Міністэрства Беларускіх Спраў. Відаць было, што Рада Міністроў і сама спалохалася „беларускага гэнерал-губэрнатарства". Зацяжка у насылцы грошы, невыразныя адносіны да 1-шага Беларускага поўка, а так сама і ўнутрэнныя ваханьня,—псавалі справу Літоўскай Дзержаўнасьці у Городні, і, каб абараніць яе ад занепаду, Міністэрства Беларускіх Спраў у сакавіку ужо пачало пераносіць свае установы з Городна ў Коўну.

Як раз 12 сакавіка зьменіўся Урад. Габінэт М. Слежэвіча замяніў новы Габінэт Ф. Давідайтіса Ражоп паміж соцыялістычна-коаліцыйным Габінэтам і хрысьціянска-дэмакратскай Дзержаўнай Радай (Тарыбай), якая ад папаўненьня выбраннымі на Другой Літоўскай Канфэрэнцыі (у студзеню г.г. у Коўні) не палевела, даў сябе чуць, і Тарыба злажыла сабе Габінэт па свайму густу. У новы Ўрад увайшлі: Ф. Давідайтіс—Старшынёй Рады Міністроў, А. Стульгінскі—Міністрам Ўнутрэнных Спраў, Ян Ічас—Міністрам Прасьветы, А. Мэркіс—Загадчыкам Міністэрства Краёвай Абароны, Л. Нарэйко—Міністрам Справядлівасьці, В. Петруліс—Загадчыкам Міністэрства Грашовых Спраў,—Ян Шымолюнас—Загадчыкам Міністэрства Шляхоў. Міністру Беласкіх Спраў Я. Воронко запрапановано было д. Ф. Давідайтісам заставацца на сваёй пасадзі надалей, пакуль не дадуць новага кандыдата беларускія дэпутаты ў Тарыбе.

Ад самай першай гадзіны стварэньня новага 3-цьцяга Габінэту відаць было, што ён пратрывае не доўга. Хутка Старшыня захварэў і яго абавязкі пачаў нясьці д. А. Стульгінскі. Беларуская справа за гэты час перэжывала поўны застой, ніхто не ведаў—што далей рабіць. Між тым „эвакуацыя" Міністэрства Беларускіх Спраў з Городна пасовывалася далей.

Адным с яскравейшых момэнтоў у той час зьявіўся прыезд 19—20 сакавіка у Городно з Коўны разам з Міністрам Беларускіх Спраў—Амэрыканскай Прадавольчай Камісыі з маёрам Россам на чале. Яму беларускія установы пасьпелі злажыць свае жаданьня і аб'ясьніць палажэньне Городны у зьвязку з польскай авантурай і захопленьнем палякамі Беластоку.



**ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ.**

Член Літоўскай Дзержаўнай Рады, Віцэ-Старшыня Віленскай Беларускай Рады (і Старшыня Беларускага Прэдстаўніцтва ў Л. Д. Радзе); вядомы беларускі дзеяч, пісьменьнік і гісторык; фундатар беларускага выдавецтва школьных падручнікаў. Выехаў у ліпеню г.г. у Вільню ў окупацыю, скуль да гэтага часу і не вернуўся.

Габінэт Ф. Давідайтіса—А. Стульгінскага ледзь-ледзь дацягнуў да месяца. 12 красавіка М. Слежэвіч зноў вярнуўся да ўлады, з якого дня і пачаў функцыанаваць новый коаліцыйны 4-ты Габінэт блізка з тымі ж самымі людзьмі што і 2-й Габінэт.

Да таго ж у пачатку красавіка прынята была Тарыбай новая Конституцыя Літоўскаго Гаспадарства, а 4 красавіка увайшлі ў Тарыбу новыя члены-беларусы,*) як прат. І. Корчынскі, д-р К. Белецкі, і быў выбраны таго ж дня згодна з Канстытуцыёй—Прэзыдэнтам Гаспадарства—Антон Смэтона. Паміж беларускімі прэдстаўнікамі Тарыбы і беларускімі

*) На мейсцэ выйшоўшых з Тарыбы з невыясьненых прычын д. д. І. Луцкевіча і Я. Станкевіча.

арганізацыямі вяліся у той мамэнт перэгаворы, каб Язэп Варонка, згодна з яго ж прапазыцыёй,—больш у Літоўскі Урад не ўходзіў і каб мейсцэ Міністра занялі альбо Вацлаў Ластоўскі, альбо Петрук Крэчэўскі. Першы недаўна перэ тым пакінуў сваю пасаду беларускаго атташэ пры Літоўскім Пасольстві ў Бэрліне. Перэгаворы гэтыя ні да нічога не прівялі. Справа беларуская у Городні,—ў зьвязку з пасовываньнем палякоў на поўнач гінула. Вільня чэкала полякоў ад Ліды, куды яны зайшлі раней. Адносіны і умовы паміж літвінамі і беларусамі прынялі даволі невыразны характэр і дзеля таго, каб гэта невыразнасьнь не папсавала зусім беларускай палітычнай лініі, Міністэр Беларускіх Спраў прымушаны быў застацца бэз зьмены.

Раздзяленьне партфэляў у 4-тым Літоўскім Габінэце адбылося такім парадкам: Старшыннёю Рады Міністроў і Загадчыкам Міністэрства Заграні́чных Спраў стаў—М. Слежэвіч, Міністрам Краёвай Абароны—А. Мэркіс, Ўнутрэных Спраў—П. Леонас, Справядлівасьці—Л. Нарэйко, Таргоўлі і Прамысловасьці—праф. І. Шымкус, Грашовых Спраў—Я. Вілейшыс, Землеробства і Дзержаўнай Маентнасьці—А. Стульгінскі, Шляхоў В. Чарнэцкі, Харчовых Спраў—С. Кайрыс, Працы і Сацыяльнай Апекі—І. Пакніс, Прасьветы—Я. Тубеліс, Беларускіх Спраў—Я. Варонко, Міністрам бэз партфэлю—І. Шэрнас; Прафэсар А. Вольдемарас заставаўся Старшынёй Літоўскай Дэлегацыі у Парыжы і Міністрам Заграні́чных Спраў.

У канцы красавіка палякі занялі такі Городно, не глядзячы ні на якія заходы Міністэрства Беларускіх Спраў перэд другімі ужэ Місыямі Антанты: як перэд Пранцузскай Місыяй—палкоўніка К. Рэбуля, перэд Вялікабрытанскім прэдстаўнікам д. Гранд-Ватсанам і іншымі. Не памагла беларускай справе і Літоўская Місыя, якая зьездзіла ў Варшаву ў красавіку, варочаючыся дамоў ужэ праз акупованую палякамі частку не толькі беларускіх, але і чыста літоўскіх зямель...

Праз недагляд Міністэрства Краёвай Абароны і сэпаратную палітыку некалькіх афіцэроў 1-шага Беларускага поўка, беларускае войска асталося ў Городні ў польскай акупацыі з умовай, што яно можэ выйсьці з туль цэлым па свайму жаданьню. На практыцэ „умова з палякамі" давяла да таго, што 1 чэрвеня 1-шы Беларускі поўк у Городні быў палякамі зусім разаружан, абрабован, людзі, асабліва афіцэры, ўкінуты ў турмы, і беларуская вайскавая справа на сваёй жэ бацькаўшчыне зусім скасована варшаўскімі набежчыкамі.



**ЕНАС (ЯН) ВІЛЕЙШЫС.**

Былы Член Літоўскай Дзержаўнай Рады і Міністэр Ўнутрэнных і Грашовых Спраў (у 2-ом і 4-ым Габінэтах М. Слежэвіча). Цяпер-Старшыня Літоўскай Надзвычайнай Дэлегацыі ў Зьедnаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі, куды выехаў з Коўны праз Бэрлін у канцы кастрычніка. Адзін з найпрыхільнейшых да беларусоў літоўскіх палітычных дзеячоў.

Ад травеня Міністэрства Беларускіх Спраў стала кіраваць ужэ беларускай палітыкай ў Літве з Коўны. У гэтым месяцы зьвязь з Городзеншчынай падтрымлівалася яшчэ толькі нелегальным спосабам, аб афіцыяльных зносінах з роднай старонкой не магло быць і размовы: уселякая папера, чы пасылка, чы грошы, чы самыя пасланцы гінулі ў руках польскіх пагранічных жандармаў,

якія асабліво глядзелі, каб забіць беларускае палітычнае жыцьцё і разарваць хаўрус беларусоў з літвінамі.

Міністэрство Беларускіх Спраў ліквідавала часьць сваіх установ, зьменьшыла лік служачых, з другога боку Міністэрства Краёвай Абароны прыняло на сябе і ўсе абавязкі Военнага Сэкрэтарыяту Міністэрства Беларускіх Спраў. Не згоршаму разьвязаньню беларускага вайсковаго пытаньня дапамог у свой час, пазначэны 5 травеня, першы Галоўкамандуючы Літоўскай Арміёй гэнерал С. Жукоўскі. Пры яго помачы, заложэныя яшчэ зімою ў Коўні беларускія вайсковыя часткі пад наглядам Беларускага Вайсковага Стала (пад начальствам афіцэра В. Казлова) пашырыліся і ў летку выйшлі на пазыцыі. Летам так сама прабіўся з Городна 1-шы Беларускі швадрон пад камандай афіцэра М. Глінскага, які, пакінуўшы у польскіх лапах часць свайго дабра, пад беларускім штандарам увайшоў у Коўну 31 травеня.

У чэрвеню так сама былы Камандзер 1-шага Беларускага поўка К. Езавітаў прыняў начальство Канцлярыей Міністэрства, якую веў аж да канца верасьня.

Канец лета і пачатак восені не далі нічога добрага дзеля беларускай справы. Справа з поўком у Городні, справа з лепшымі беларускімі арганізацыямі і установамі, большасьць сябрукоў якіх папала у польскія турмы, —што дня то горшыліся.

17 жніўня Міністэр Беларускіх Спраў падаў Літоўскаму Міністру Заграничных Спраў вялікі пратэст проці уціску, зьдзеку і самаўпраўства палякаў у беларускай зямлі, але да канца верасьня нічога пасьля пратэсту не зьмянілася. Як раз у верасьню даў сябе чуць у Літве ўласны грашовы крызыс, праз які так сама не мала пагоршылася і беларуская справа; людзі ў Городзеншчыне асталіся бэз духоўнай помачы: бэз кнігі, бэз школаў, бэз газэт (усе істнаваўшыя пад польскай акупацыёй беларускія газэты зачынены палякамі— „Беларуская Думка“, „Бацькаўшчына“, „Родны Край“), бэз помачы бежэнцам, вучыцелём, ваеннапалонным.

Асыгнованныя на Беларускія Вучыцельскія Курсы у Вільні праз Міністэрства Беларускіх Спраў 19.000 марак вучыцелю І. Антонаву, у дарозе заарэштованы палякамі разам з д. Антонавым. Грошы пасланыя беларускаму духавенству ў Городно спаткаў такі ж лёс. Адным словам і ўнутрэныя варункі ў гэтай невялічкай часьці Літоўскага Гаспадарства—не памагалі беларускай справе: зьвязь з Городном, яго уцэлеўшымі установамі і дзеячамі—аставалася толькі духоўная і нелегальная.

Парваная праз час бальшэвіцка-польскіх авантур зьвязь Міністра Беларускіх Спраў з Вільняй, асабліва з Віленскай Беларускай Радай, пасьля заціша зноў адновілася афіцыяльнай дэкларацыёй новаго Старшыні Віленскай Рады—М. Кахановіча*), на якую Міністэр адказаў сваёй згодай. Да іншых установ штучна утворэных, як „Цэнтральная Рада Городзеншчыны“, чы на польскія маркі заложэная „Цэнтральная Рада Віленшчыны і Городзеншчыны“, Міністэрства Беларускіх Спраў ніякага дачыненьня не мела.

Пад канец верасьня Габінэт М Слежэвіча перэжываў дзелавы крызыс. Ва ўсіх галінах будаўніцтва Гаспадарства—праца не клеілася, ўсюды рабіліся памылкі, чы просто Урад на ўсё закрываў вочы.

Беларуская Справа так сама нікла: ні дакладная запіска аб паважнасьці сучаснага палажэньня для беларускай справы, ні праэкт „Часовага палажэньня аб Міністэрстві Беларускіх Спраў“, ні пытаньня аб законі дзеля беларускіх войскаў, ні смэты на друкі—ні што не было парушэна да 1 кастрычніка.

З 1 кастрычніка Міністэрства Беларускіх Спраў ўступіла ў 11-ты месяц істнаваньня.

М. ЗАСЕЦКІ.

---

*) Да таго Старшынёй быў кіраўнік газэты „Гаман“— Антон Луцкевіч.



ГОРОДЗЕНСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ВАКРУЖНАЯ КАМЭНДАНТУРА

у сакавіку-красавіку 1919 г.

На фатаграфіі—ўсе чыны Камэндантуры: Камэндант Городна—Л. Калугін, афіцэры—М. Антонаў, П. Павчэр (цяпер у польскім вастрозі), М. Глінскі, М. Дземідаў і др., пешая, конная (часць 1-шага швадрону) і кулемётная каманды—перэд домам Камэндантуры. На ганку тры штандары: насярэдзіне чырвоны з белай пагоняй—дзержаўны штандар, а з бакоў—беларускі нацыянальны (бела-чырвона-белы) і літоўскі (жоўта-зелёна-чырвоны).

# БЕЛАРУСКА-ЛІТОУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## БЕЛАРУСКАЯ СВЯДОМАСЬЦЬ.

За апошні год істнаваньня беларускіх дзержаўных установ у Віленшчыне, Городзеншчыне і Ковеншчыне не раз прыходзілася спатыкаць людей, нават займаючых і высокае урадовае полажэньне, якія падымалі на сьмех ўсё, што ёсьць ў беларусоў, кажучы, што ніякіх беларусоў у вас (гэта значыць у ўстановах Міністэрства Беларускіх Спраў) німа, што вашыя людзі ўсе—рускія і толькі падшываюцца „пад беларусоў“.

Праўда, вялікая лічба грамадзян—родам беларусоў, якая за гэты год мела справы з беларускімі установамі, не гаворыць добра па беларуску, не ўмее пісаць па нашаму, хоць зусім граматна па расейску, чы па польску. Але гэта не значыць, што яны не беларусы, што яны не шчырэйшыя ад тых, хто і пішэ і гаворыць па беларўску,— як кажуць, „на пяцёрку“. Мінулы год гэта паказаў, што бэларусы, якія і не гаварылі добра „па просту“—зложылі нават свае головы за беларускую справу і крывёю акрапілі родную зямлю.

Калі б так глядзелі на гэту справу беларускія дзеячы, то ім не было бы з кім працаваць. Беларускі рух не мае яшчэ такога шырокага распаўсюджэньня, як польскі, чы украінскі, чы нават літоўскі, і прычыны гэтага добра ведаюць тыя, хто робіць закіды, што ў нас „многа рускіх“. Ў гэтых закідах ёсьць і многа і варожага да беларускай справы, таму словы гэтых людзей мы повінны адкідаць з абрыдаю.

Надварот, у нас ёсьць вельмі пекныя прыклады, калі людзі добра гаворачыя па беларуску—прадаюць Беларусь палякам, польскім паном! Чы гэта ляпей? Чы не горшыя гэтыя людзі ад нашых беларускіх „расейцау“.

Як на прыемнасць можэм ўказаць, што за гэты год не толькі мала усьвядомленныя беларусы сталі добрымі нацыянальнымі працаўнікамі. але нават запраўды не беларусы, нічаго супольнага з нашай бацькаўшчынай да гэтага не меўшыя, сталі не толькі добра усьвядомленымі нашымі прыяцелямі, але пачалі і пісаць и гаварыць па беларуску, не гледзючы на тое, што атрымалі адукацыю ў чыста расэйскіх, чы заграні́чных унівэрсытэтах і запрошаны былі да працы, як інструктары, чы спэцыялісты. Што датычыць беларусоў тут ў ласьна літоўскай часьці Гаспадарства, — то у гэтым сэнсі нашыя беларусы вайсковыя не могуць дачэкацца чарговай беларускай часопісі, чы кнігі і пішуць нам лісты, каб як найболей даслаць ім беларускіх газэт, кніжок, песеньнікаў і т. пад.

Ў добры час, нашыя гаротныя сермяжнікі—браты: „Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ!“

## XV-ая СЭСЫЯ ДЗЕРЖАЎНАЙ РАДЫ.

15 верасьня ў залі старасьвецкай Ковенскай Ратушы па указу Прэзыдэнта Гаспадарства адчынілася XV-ая сэсыя Літоускай Дзержаунай Рады.

Першы сход Рады адчынен быў словам Прэзыдэнта Гаспадарства Антона Смэтоны і прамовай Старшыні Рады Станислава Шылінгаса.

Парадак заняцьцяў Рады намечан быу спярша такі: I. Дэкляpaцыя Прэмьер Міністра, чы Старшыні Габінэту Міністроў-Э. Гальваноўскага, 2. Даклад Заведываючага Дзержаўным Кантролем Ю. Зубрыцкага, 3. Пытаньне аб самаупраўленьнях, 4. Закон

аб Устаноўчым Сойме Літвы, 5. Зьмена нікаторых пунктаў Констытуцыі 4 красавіка, 6. Перэгляд бюджэту Дзержаўнай Рады, 7. Выбары Прэзыдыуму Дзержаўнай Рады згодна з § 5 Статуту Д. Р. і мн. інш.



**Гэнерал К. А. КАНДРАТОВІЧ.**

Былы Віцэ-Міністэр Краёвай Абароны-беларус. Пры ём пачалася арганізацыя беларуска-літоўскага войска у Вільні 23 лістапада 1918 года. Цяпер гэнерал знайходзіцца ў Парыжы. Ад кастрычніка 1917 г. да канца 1918 г. К. А. працаваў у беларускіх арганізацыях у Менску-Беларускім.

Па выкарыстаньні усіх гэтых пытаньняў, зноў такі згодна з Констытуцыёй, Дзержаўная Рада пачла разглядаць тыя законы, якія падгатаваў Габінэт Міністроў, дзеля таго што ён ў час сэсыі Рады ні воднага закону сам прыняць ня можэ. За недастачай мейсца у „Часопісі", дэтальных абглядаў кожнага засеаньня мы даць ня маем магчымасьці. XV-ая сэсыя Дзержаўнай Рады пратрывае да Каляд бягучага году.

## У БЕЛАРУСКІМ ВОЙСКУ.

### НАГРАДЫ БЕЛАРУСАМ.

Прыказам Прэзыдэнта Гаспадарства ад 22 жніўня 1919 г. за храбрасьць у баёх з ворагам атрымалі награды—крыж „За Бацькаўшчыну" -такія беларусы-вайсковыя: афіцэры: А. Ружанцоў, С. Сатыга; ўзводныя: Т. Шаркоў, А. Шульц, П. Грохоўскі; аддзелённыя: Н. Дуброўскі, В. Курыкоў, В. Новікоў; стрэлкі: А. Канвэйтіс, М. Занцэвіч, В. Барыла, М. Краўз, А. Сакалоў, В. Шарвайтіс, С. Валковіч.

Як нас паведамляюць, ў хуткім часе будуць нагроджэны яшчэ колькі беларусоў-вайсковых з нашых нацыянальных частак.

### ПРАІЗВОДСТВА БЕЛАРУСОЎ.

З беларусоў-афіцэроў праізведзены ў новыя вайсковыя чыны такія: ў палкоўнікі-В. Міхалоўскі з 29 студзеня 1917 г., ў палкоўнікі-лейтэнанты-М. Яніцкі з 5 травеня 1919 г., ўмаёры А. Ружанцоў з 18 травеня 1918 г. і А. Ганзэн з 13 кастрычніка 1919 г., ў капітаны: В. Казлоў з 27 кастрычніка 1917 г., П. Дзехцяроў з 29 сакавіка 1919 г., П. Ферэнцэвіч з 13 кастрычніка 1915 г. і В. Дзехцяроў з 29 верасня 1919 г., ў старшыя-лейтэнанты: П. Ласінскі з 9 студзеня 1918 г. і А. Парахоўнікау з 23 кастрычніка 1916 г.

Да таго дабаўляем, што маёр Ал. Ружанцоў назначэн Камандзерам NN Беларускага Батальёну.

## ПРАВЫ ЖЫДОЎСКАГА НАСЯЛЕНЬНЯ Ў ЛІТВЕ.

Намі атрымана копія лісту Літоўскай Дэлегацыі на Міравой Нарадзе ў Парыжы ад 5 жніўня г.г. і адрэсованага Камітэту Жыдоўскай Дэлегацыі там жэ пры Міравой Нарадзе. Ліст гэты падпісаны Старшынёй Літоўскай Делегацыі праф. А. Вольдэмарасам і Сэкрэтаром П. Клімасам і мае такі зьмест:

„Зьвертаючыся да нашай гутаркі, якая была ў канцы ліпеня г.г., маем гонар прэдставіць Вам такія ведамасьці, якія датычаць нашых жыдоўскіх суграмадзян. Літоўскі Урад, за згодаю жыдоўскага прэдстаўніцтва, прыняў у гэтым пытаньні гэтакія прынцыпы, якія ужэ складаюць, чы будуць складаць часьць аснаўных законаў.

1. Асобы жыдоўскай нацыянальнасьці, як і ўсе грамадзяне бэз рожніцы нацыянальнасьці, веры і мовы карыстаюцца поўнасьцьцю правоў грамадзянскіх, палітычных і нацыянальных. Равіны знайходзяцца ў тым жэ прававаым палажэньні, як і асобы духоўнага званьня другіх вераў.

2. У законадаучых установах жыды прэдстаўлены, чы будуць предстаулены прапорцыянальна.

3. Жыды прыймаюць учасьце ў Урадзе і ў судовых установах. Дзеля споўненьня іх спраў утворэна спэцыяльнае Міністэрства Жыдоўскіх Спраў.

4. Статут аб прапорцыяналяным прэдстауніцтве ў законадаўчных установах гварантуецца утварэньнем нацыянальнай жыдоўскай курыі, чы якім небудзь другім спосабам, якое знайдзена будзе найбольш адпаведаючым мэці.

5. Жыды маюць права свабодна карыстацца сваімі мовамі ў публічных сходах, у друку, ў тэатру, у школах, пры злажэньні уселякіх актаў, маючых прававі характэр, у судах і ў урадовых установах.

Прыметка: Літоўская мова прызнаецца мовай дзержаўнай. Усе публічна прававыя установы, за выключэньнем устаноў жыдоўскай нацыянальнай аўтаноміі, павінны зносіцца выключна на гэтай мове*). Абучэньне літоўскай мові абавязкова ва ўсіх жыдоўскіх школах, як пачатковых, так і сярэдніх.



**АМЭРЫКАНСКАЯ МІСЫЯ МАЕРА РОССА у ГОРОДНІ-20.III.1919 г.**

Перэд ад'ездам Місыі у Варшаву-на вагзалі: 1-3. Маер Росс з сваімі помошнікамі; 4. Начальнік Городзенскага гарнізону аф. К. Езавітаў; 5. Літоўскі прэдстаўнік пры Місыі д-р В. Бартушка; 6. Былы Камандзер 1-шага беларускага поўка-аф. М.Лаўрэньцьеў; 7. Камэндант м. Городно-Л. Калугін.

6) Права жыдоў сьвяткаваць суботу и другія сьвята не будзе абмежована ні якім способам; аднак, не можэ быць разглядана, як абмежаваньне вышэй памянёных правоў,—нясеньне павіннасьцяў, у роўнай меры наложаных на ўсіх грамадзян и патрэбных дзеля абароны бацькаўшчыны, а так сама дзеля падтрыманьня грамадзянскага парадку.

7. Жыды аўтаномны у сваіх ўнутрэных справах. Такімі лічацца: справы рэлігійныя, дабрачынныя, сацыяльнай помачы, абучэньня і наагул ўся вобласьць духоўнай культуры. Межы спраў нацыянальнай аўтаноміі будуць дакладна устаноўлены законадаўчым шляхам і гварантованы аснаўнымі законамі.

Установамі жыдоўскай аўтаноміі зьяўляюцца мейсцовыя грамады і хаўрусы грамад. Парадак арганізацыі грамад і хаўрусу з іх, а так сама і формы прэдстаўніцтва будуць акрэсьлены асобым законам.

Абучэньне ў пачатковых жыдоўскіх школах будзе абавязковым, агульным і бэзплатным, калі такі самы парадак будзе законадаўчым шляхам устаноўлены так жа і дзеля другіх пачатковых школ.

8. Установы жыдоўскай нацыянальнай аўтаноміі, з прыкладу органаў тэрыторыяльнай аўтаноміі *) разглядаюцца, як урадовыя установы і яны маюць права у межах іх спраў і компэтэнцыі, выдаваць пастановы, абавязковыя для асоб сваёй нацыянальнасьці.

Апроч таго, яны маюць права аблагаць сваіх членаў спэцыяльнымі налогамі дзеля пакрыцьця сваіх расходаў.

Што датычыць правоў грамадзянскіх, жыдоўскія грамады і хаўрус грамад уладаюць правам юрыдычных асоб. Апроч таго, ім даецца права прыймаць ахвяры і дары ад жывых, чы па тэстаменту. Яны так сама атрымліваюць грашовую помач ад Гаспадарства, калі такую ж помач, назначэную дзеля падобных мэтаў, будзе Гаспадарства даваць такім самым установам другіх нацыянальнасьцяў. Грашовая помач павінна быць раздзелена прапорцыянальна між усімі нацыянальнасьцямі.

Мы маем надзею, што Вы знойдзеце вышэй апісаныя правы здаволіваючымі, каб абэзпэчыць згоднае жыцьцё нашых суграмадзян—жыдоў, на колькі гэта залежыць ад Конституцыі, і, што Вы хучэй прымеце правы, данныя дабравольна, ніж тыя жэ навязаныя прымусам".

*) Да беларусоў гэта адносіцца не павінна! Прым. Рэд. „Ч".

## СКАСАВАНЬНЕ 1-шай БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.

Тысяча першай плямай на хвалёную свабодалюбівую польскую дэмакрацію ляжэ скасаваньне палякамі 1-шай Беларускай гімназіі ў мястэчку Буцлаві, Віленскай губэрніі.

Колькі каштавала працы беларускім дзеячам стварыць гэту першую беларускую сярэднюю школу ў летка 1918 года. Колькі зьдзеку і нагавораў панясьлі фундатары гімназіі:—Дырэктар, вядомы беларускі пэдагог Язэп Васілевіч і вучыцель, коопэратар Адвард Будзька, а так сама і Старшыня Буцлаўскага Коопэратыву. Мейсцовы памешчык—паляк нагаварываў нямецкага камэндата, што фундатары гімназіі—бальшэвікі, і навакол ніякіх беларусоў німа, і што гэта ўсё робіцца, каб бунтаваць народ. Пасядзелі беларускія дзеячы пад арэштам, самы вазілі бэлькі з лесу на дом дзеля гімназіі (якая будавалася па праекту беларускага архітэктара д. Л. Дубейкоўскага у старасьвецкім стылю), самы зьбералі па капейцы грошы.

Найвялікшую дапамогу Буцлаўскай гімназіі зрабіў Народны Сэкрэтарыят Беларусі, які асыгнаваў на будоўлю болей 60,000 марак і выдаў гімназіі, як гэта было у старыя часы, асобую Грамату**). Цяпер же, не гледзючы на прозьбы 500 селян—беларусаў, дзеці якіх вучыліса у гімназіі,—палякі зрабілі сваё каінова дзела.

*) Як у беларусоў. Прым. Рэд. „Ч".

**) Сучасны Міністэр Беларускіх Спраў з'яўляецца Пачотным Апекуном Буцлаўскай гімназіі.

Гэта—у той самы момэнт, калі яны у Вільні адчыняюць польскі „Унівэрсытэт Стэфана Баторага“ дзеля аканчацельнага спольшчэньня нашага гаротнага народу.

Вось, калі б гэтыя 500 селян напісалі прозьбу „аб прылучэньні“ іх да Польшчы, іх голас быў бы чуць ўсюды...

Сляпая шляхта, куды цябэ нясе!?



**Праф. Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЛО.**

Фундатар вядомага беларускага выдывецтва „Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ“ у Пецярбурзі, аўтарытэтны знаўца белурускага адраджэньня і апякун многіх нашых пісьменнікау і дзеячоу. За сваё шчырае учасьцце і свядомасьць у беларускім руху і заслугі перэд беларускай культурай Браніслаў Ігнатавіч мае першае права на імя „б е л а р у с к а г а Н е с т а р а“.

## БАРАЦЬБА ЗА ГОРОДЗЕНШЧЫНУ.

Міністэр Беларускіх Спраў 16 кастрычніка падаў Начальніку Дыплёматычнай Місыі Велікабрытанскага Ураду (Britich Commission for the Baltic Provinces) у Коўні Б. Ў а р д у запіску такога зьместу:

„Паўтараючы ўсе мае многаразовыя пратэсты, зверненыя да Прэдстаўнікоу: Велікабрытанскага Ураду д. Г р а н т - В а т с о н а; Амэрыканскага Ураду: д. палкоўніка Г р о в э, д. маёра Р о с с а, д. падпалкоўніка Г р ы н а; Французскага Ураду: д. палкоўніка Р э б у л я, а так жа мой пратэст ад 17 жніуня г. г. да ўсіх Урадаў Антанты наагул з поваду бэзаконьні, сваевольля і ўціску, якія пануюць у, так званай, польскай акупацыі, гэта значыць на ўсіх беларускіх землях, лежачых на ўсход ад рэк Нарвы і Буга і далей па Нёману і Дзвіне, маю гонар злажыць Вам такія мае прозьбы, якія датычаць грамадзян-беларусоў, населяючых былыя Городзенскую і Віленскую губэрніі, а так сама і Аўгустоўскі павет былой Сувалскай губэрніі:

1) Паспяшыць з утварэньнем Ваенна - Следчай Камісыі, якая, як паведамляе Міністэрства Краёвай Абароны, складаецца ужэ ў працягу двух месяцаў і ў якую павінны былі ўвайсьці вайсковыя прэдстаўнікі, як Антанты (англічанін, амэрыканец, француз), так і Літвы (беларус і літвін) дзеля паездкі у Городно і абследаваньня прычын разаруженьня 1-шага Беларускага пешага поўка палякамі, адабраньня у поўка ўсёй маетнасьці (у тым ліку прыватных рэчаў афіцераў і салдатаў,) і трыманьня у турмах беларускіх афіцэраў і салдатаў, а затым дзеля адданьня пад суд прэдстаўнікоў акупацыйнай улады.

2) Утварыць спэцыяльную Судова - Следчую Камісыю (як былая камісыя сэнатара Моргентаў ад імя Амэрыканскага Ураду) дзеля абследаваньня ўсіх незаконнасьцяў палякаў у акупаванай беларускай тэрыторыі, афіцыяльныя предстаўнікі якой ужэ 4-ты месяц мучаюцца у польскіх турмах (перэлічываюцца усе арыштованыя). Гэта камісыя з маёй думкі можэ быць утворэна тут жа у Коўні з прэдстаўнікоў: Антанты, літвіна і беларуса, маючы на мэці у у першы момэнт хоць бы сабраць інформацыйны матэр‘ял і праверыць многалічбенныя жалабы, якія ідуць з мейсц, дзеля чаго патрэба аб‘ехаць у першы чарод гарады па гэтаму шляху: Вільня—Городно— Саколка— Беласток—Бельск—Белавеж—Воўкавыск— Слонім— Новагрудак— Дзятлава—Ліда—Ашмяна—Вільня.

3) Яшчэ раз паведаміць Верхоўнае Прэдстаўніцтва Антанты у новаутворэных гасударствах, што беларусы ніколі не згодяцца ні з якім галасованьнем, якое будуць праводзіць польскія акупанты у прысутнасьці сваіх жэ войскаў і жандармаў, ні так жа хоць бы з часовым устанаўленьнем польскай граніцы на усходзі, якая можэ аддаць палякам „спешна полёнізуемыя“ імі у гэты момэнт беларускія гарады, як Аўгустоў, Беласток, Бельск, Берэсьцье. Вашыя погляды аб закранутых мною пытаньнях не адмоўце мне афіцыяльна даслаць“.

20 кастрычніка д. Б. Ў а р д афіцыяльна паведаміў Міністра Беларускіх Спрау аб пачатых заходах да выпоуненьня вышэй зложэнай праграмы разам з прэдстаунікамі другіх Місый Антанты у Коўні.

# КРОНІКА.

## ПРЫЕЗД Д. СЕМАШКО.

Член Дзержаўнай Рады (Тарыбы) Дамінік Семашко 6 кастрычніка вярнуўся з Парыжа, куды ён ездзіў, як прэдстаўнік беларусоў у Літоўскай Дэлегацыі на Міравой Нарадзе. Надалей д. Семашко астаецца у Коўні.

## БЕЛАРУСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ СПРАВЫ.

10 кастрычніка Міністэр Беларускіх Спраў—меў нараду з Галоўнакамандуючым Літоўскай Арміёй гэнэралам Ф. Летукасам у справі павялічэньня фармаваньня беларускіх войскаў. У нараду Міністрам былі запрошэны: Камандзер Беларускага Швадрону М. Глінскі, Камандзер 2-гой роты А. Ганзэн і Начальнік Беларускага Стала В. Казлоў.

## У ПРЭДСТАЎНІКОЎ ВЕЛІКАБРЫТАНСКАГА УРАДУ.

Міністэр Беларускіх Спраў 13 кастрычніка адведаў Начальніка Ангельскай Ваеннай Місыі палкоўніка В. Рован-Робінзона, а 16 кастрычніка Начальніка Ангельскай Дыплёматычнай Місыі Б. Ўарда у справі арганізацыі міжнарадовай камісыі дзеля расследаваньня спраў 1-шаго Беларускага поўка у Городні, яго разуружэньня і абрабаваньня палякамі, дзеля аслабаненьня з польскіх турмаў беларускіх дзеячоў і афіцэраў, а так сама ў справі шыкаваньня палякамі „народнага галасаваньня“ у акупованай часьці Беларусі і ў справі граніц. У камісыю гэту прапануецца ўвесьці па аднаму амэрыканцу, ангельцу, француз, беларусу і літвіну, што трэба зрабіць, як найхучэй. У справі граніц Міністэр асьцерог д. Ўарда, што ні Беласток, ні Бельск, ні Берэсьцье не можэ быць далучена да Польскай Рэспублікі.

Ангельцы прынялі беларускія дамаганьня вельмі прыхільна.

## ПРАНЦУЗЫ І БЕЛАРУСЫ.

Вярнуўшыся з Парыжа Начальнік Пранцузскай Вайсковай Місыі палкоўнік К. Рэбуль зноў паабецаў Міністру Беларускіх Спраў дапамагчы беларусам ва ўсіх тых пытаньнях, якія датычаць аслабаненьня арэштованых беларускіх дзеячоў, аблегчэньня польскай акупацыі і барацьбы з полёнізацыёй краю.

## ДА АДСТАЎКІ М. СЛЕЖЭВІЧА.

Былы Міністэр-Прэзыдэнт Літоўскага Ураду М. Слежэвіч 10 кастрычніка адведаў Міністра Беларускіх Спраў перэд сваім ад'ездам на нейкі час на адпачынак у Чэхію.

## А. БАБЯНСКІ У КОЎНІ.

Вядомы польскі дзеяч Александар Бабянскі, якога часта называюць „гэнерал Бабянскі“, у канцы верэсьня быў у Коўні, дзе меў палітычныя справы. Знаны з сваёй зацекаўленасьці у беларускіх справах, д. Бабянскі зрабіў афіцыяльны візыт Міністру Беларускіх Спраў, але ніякіх нарад не меў.

## ПРАФ. В. ІВАНОЎСКІ У СМАЛЕНСКУ.

Стары беларускі дзеяч праф. В. Іваноўскі, які, пасьля ўходу немцоў у снежню 1919 году з Менску, астаўся тама-ка працаваць у Вучыцельскім Інстытуце, цяпера-ка, перэд заняцьцем Менска палякамі, вывезены бальшэвікамі, як заложнік, у Смаленск, дзе ён пакутуе у турме. Разам з ім вывезена і шмат другіх беларускіх дзеячоў. Гэтак, як бачыма,—часьць нашых барцоў за адраджэньне ўкінута у бальшэвіцкія астрогі, а другая у польскія; на бацькаўшчыне між тым гуляе паншчына і прыгон.

## ФАЛЬШЫВАЯ МАПА.

Кожны сьвядомы беларус павінен апратэставаць мапу нацыянальнасьцяў Эўропы, выданую „вядомым“ І. Габрысам у Лёзаньні у Швэйцарыі і ахвярованную нікому іншаму, як самаму В. Вільсону. У гэтай мапе зусім фальшыва і лыгарскі паказана разсяленьне беларусоў, якіх з фантазыі „этнографа“ Габрыса німа ні у Городні, ні аж да Берэсьцья. На мапе гэтай стаіць, што у Городні, Саколцы, Беластоку, Бельску, Белавежы і т. д. жывуц літвіны (!?).

## СВОБОДА СЛОВА.

„Лейб—орган“ літоўскіх хрысьціянскіх дэмакратаў „Laisve“ (што значыць „Свабода“) у № 111 ад 15 кастрычніка між іншым кпіць над тым, што, нібы то у Міністэрстві Беларускіх Спраў „нічога не робіцца“. На шчасьце Міністэр Беларускіх Спраў не належыць да „літоускіх хрысьціянскіх дэмакратаў“, таму „Laisve“ можэ дазволіць, сабе такую свабоду слова. Вось аб сваім стаўленіку А. Стульгінскім, якога Міністэрство Зямлеробства і Дзержаўнай Маетнасьці зусім скасавалі за „шпаркасьць работы“ „Laisve“ моўчыць. І наагул, што гэта „Laisve“ пачала цекавіцца беларусамі, чы, абрыдлі ёй ужэ жыдоўскія справы. Пачаць с такой паважнай газэтай дыскусыю аб беларусах мы рады. Можэ „Laisve“ захочэ пазнаць свабоду слова, а не свабоду брэхні.

## ЛЫГАРСКІЯ ВЕСТКІ.

Газэта „Эха“ у Рызе друкуе, а „Лібаўскае Рассейскае Слова“ у № 177 ад 21 верэсьня перэдруковывае вестку аб тым, што нібы то у Коўні істнуе два Урады: Літоўскі і Беларускі, а так сама і дзве арміі. У нас тут ўсім ведама, што у Коўні істнуе толькі адзін Урад—Літоўскі, у якім ёсьць толькі Міністэрства Беларускіх Спраў (ад 1 сьнежня 1918 г.), а так сама і беларускія вайсковыя сілы ёсьцека толькі, як часткі усёй Літоўскай Арміі. Як відаць, камусьці трэба пускаць такія лыгарскія весткі.

## У МІНІСТЭРСТВІ ЖЫДОЎСКІХ СПРАЎ

Міністэр Жыдоускіх Спраў д-р М. Салавейчык 8 кастрычніка вярнуўся з Парыжа. Тама-ка, як паведаміў Міністэр, палякі робяць усе заходы, каб праз полёнофільскую пранцузскую прэсу ашукаць грамадзянства Заходу, што на усёй тэрыторыі ад Беластоку да Дзвінска і ад Коуны да Менска пануе польскі дух, і увесь народ стаіць „за карону“. Справа нацыянальна—пэрсанальнай аутаноміі для жыдоў у Парыжы ужэ разьвязана, што дасьць можнасьць усюды жыдам організовацца у Грамады. 20 верэсьня Міністэрство Жыдоускіх Спраў выдало № 1 сваіх „Вестак“

## КОБРЫНСКІЯ БЕЛАРУСЫ У КОЎНІ.

24 верэсьня у Міністэрства Беларускіх Спраў у Коўні з'явілася чатэры чалавекі з Кобрынскага павету Городзенскай губэрні. Яны расказалі, што едуць са сваімі фаміліямі, усяго 19 душ, з Архангельску, куды яны папалі уцекачамі ў 1915 гаду. Нідаўна ангельцы ім запрапанавалі перэвезьці іх на бацькаўшчыну, давёзшы бэзплатна морам да Лібавы. Беларусы згодзіліся: дабраліса ужо аж да Коўны. Праз колькі дзён Міністэрства адправіла іх далей у Кобрыншчыну.

## ЗВАЛЬНЕНЬНЕ АД СЛУЖБЫ.

1 кастрычніка па Канцэлярыі Міністэрства Беларускіх Спраў зволнены ад службы ад зьменьшэньня штатаў: машыністка Л. Дарашкова, дзелавод Б. Маліцкі, тлумач Э. Штыгліц, 15 кастрычніка—чыноўнік Э. Шварц.

## ЯШЧЭ АХВЯРА.

Жонка беларускага афіцэра Ю. Бутовіча—Ніна, які загнаны палякамі у варшаўскі астрог, ад бяды і беднасьці з д у р н е л а і адпраўлена па заходах Міністэрства у Таўроганскую бальніцу.

Канец глядзі на 3-цяй стр. вокладкі.

НАГРАДА ЮРАГА ПЛІСКО.

Забіты 28 жніўня на фронці надпаручнік беларускіх войскаў Юры Пліско атрымаў нагpаду-крыж „За Бацькаўшчыну".

БЕЛАРУСЫ І ЛІТВІНЫ НА ФРОНЦІ.

Пры выхадзе беларускіх кулёмётчыкаў з складу N-скага літоўскага батальёну, да якога яны былі далучаны і нясьлі баевую працу разам чатэры месяцы,—беларусы паслалі літвінам прывет, у яком пішуць:

„Ад нас беларускіх кулёмётчыкаў вам, п. п. афіцэры і кулёмётчыкі, сэрдэчны прашчальны прывет. Пасьля блізка чатырохмесячнай працы рука аб руку пляче з плячом на полі бітвы проці агульных ворагоў вашай і нашай свабоды і незалежнасьці, з больлю ў сэрцы мы растаемся з вамі. Жадаем. вам сэрдечна хучэйшага выгнаньня ўсіх нашых ворагоў з Літвы і Беларусі і звароту жывымі да родных кутоў"...

Вось дзе народ гаворыць з народам! Беларусы і літвіны, як одно цела спакон вякоў!...

ПАМЫЛКІ.

Ў нумэру 1 „Часопісі" на стр. 6 ў першым стаўбку ў вершу 8-ым здолу трэба чытаць не „беларускія школы," а „польскія школы." Ў гэтым нумэру 2 на стр. 7 ў другом стаўбку ў 2-ом вершу здолу—не „Гаман," а „Гоман."

**ВЫДАВЕЦТВА і РЭДАКЦЫЯ: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. КОЎНА. Вуліца Адама Міцкевіча, 13а.**

Старшыня Беларускай Городзенскай Земскай Управы,
Рэдактар „Голоса Городны", вядомы літэратар і грамадзскі дзеяч

**Эўгені Кўрлоў**

забіты ў восень г.г. пад Городнам у сябе на вёсцэ—у раёні польскай акупацыі не ведама кім. Даведацца аб забойцах да гэтага часу не удалося. Вечная памяць табе—верны сыну многапакутнай Городзенскай Зямлі!

РЭДАКЦЫЯ.

1-шай пешай Беларускай роты малодшы пад-афіцэр

**Андрэй Мазоль**

памёр 2 верасня 1919 году ад ран (атрыманых 28 жніўня ў вёскі Суссэкле) у Панявежскім ваенным гошпіталі, аб чым з глыбокім смуткам абвешчаюць

ТАВАРЫШЫ.

## Абвестка

„Таварыства імя Ф. Скарыны"
(часово: Коўна,
Вількамірская шаса, 41 б.)

Загад Таварыства вельмі просіць ўсіх нашых землякоў і прыяцелёў дастаўляць нам, калі у каго акажуцца непатрэбнымі, якія беларускія газэты з Вільні, Менска, чы Смаленска, чы іншыя выданьня на беларускай мове, чы на другіх мовах аб беларусах; а так сама сучасныя расейскія газэты, якія пішуць аб нашай справі, чы старыя і старасьвецкія кнігі.

ЗАГАД.

## Пачтовая скрынка.

(Пачатак гл. ў № 1).

10. А. Р-ву. Пішыце нам аб усім, што ведаеце з смаленскай старасьвеччыны.

11. ЯНУЧОНКУ. Не адмоўце выслаць нам ўсе творы В. Дуніна-Марцінкевіча і партрэт яго пецярбургскага выданьня.

12. УСІМ. Рэдакцыя просіць пажычыць ёй, у каго ёсць, расейскую кнігу „Владимировъ. Д-ръ Ф. Скорына".

13. АНТОНУ НАВІНЕ. Напамінаемо вам, што рэзалюція 1-шага Ўсебеларускага Зьезду ў Менску (5—18 сьнежня 1917 г.) адносна да палякоў была такая: „Каб абараніць народнае багацьце и абэспэчыць край, Урад павінен прыняць меры аб вывадзе польскіх легіонаў з межаў Беларусі, чы расфармаваньні іх у самы кароткі срок".

14. М. ГАРЕЦКАМУ. Ваш апошні „Невелічкі беларуска-маскоўскі слоўнік" вельмі патрабуюць нашы вайсковыя на фронці. Зрабіце магчымасьць перэслаць нам за грошы—экземпляраў 100.

Друкарня А. Бака і Х. Манкеса. Коўна.